



# Зыгмунт Глогер

**да 155 годдзя са дня нараджэння**

Дата хоць, як кажуць, і не круглая, але гэтую гістарычную постаць варта ўспомніць. У свой час ён нарадзіўся, жыў, працаваў на беларуска-польскім этнічным памежжы і дэталёва даследаваў яго.

Нарадзіўся Зыгмунт Глогер у 1845 годзе ў вёсцы Камёнка Ломжынскага павету Аўгустоўскай губерні. Сталую, грунтоўную адукацыю набыў у Кракаўскім універсітэце. У 1870 годзе пасяліўся ў маёнтку Яжэва што пад Тыкоцінам. Тут і распачаў сваю навуковую працу, гэтаму папярэднічалі археалагічныя раскопкі на Каложы ў Горадні. Ён распачаў іх у 1867 годзе. У гэты час Глогерам напісана шэраг навуковых трактатаў. Сярод іх "Вясельныя ўрачыстасці" (тут сустракаецца шэраг беларускіх матэрыялаў з Берасцейскага і Троцкага паветаў); "Гістарычная геаграфія зямель даўняй Польшчы"; "Драўлянае будаўніцтва і вырабы з дрэва ў даўняй Польшчы"; "Польскі год у жыцці, традыцыі і песні" і шэраг іншых выданняў, якія ўтрымліваюць багата беларускіх матэрыялаў. Пры жыцці даследчык выдаў вялікую колькасць зборнікаў фальклору. Вядома ўсялякае памежжа мае сваю спецыфіку. Пра жыццё, звычаі і абрады, вераванні беларускага народа Зыгмунт Глогер шмат пісаў у разнастайных артыкулах, такіх як "Земляробчыя абрады", "Звычаі народа з ваколіц Тыкоціна і Бельска", "Пчалярскія, паляўнічыя і земляробчыя забабоны", "Забабоны і ўяўленні наднарвенскага люду пра птушак, паўзуноў і насякомых" ды шэраг іншых.

Зайздросная праца здольнасць і вельмі шырокае кола даследаваных пытанняў. Друкуе матэрыялы пра краязнаўчыя падарожжы. Сярод іх "Далінамі рэк", "З-пад Нёмана", "Падарожжа Нёманам", "У даліне Бебжа" і іншыя. Гэтыя працы змяшчаюць у сабе вялікую колькасць беларускіх матэрыялаў.

Толькі гэтым не абмяжоўваюцца навуковыя пошукі Глогера. Ён дласледуе помнікі археалогіі каменнага і бронзавага веку на Беларусі (як на Гарадзеншчыне, так і на Берасцейшчыне), у Польшчы, і Літве (Віленскі край).

Надзейнай спадарожніцай з'яўляецца яго жонка Александра, дачка А. Ельскага. На сялібе Ежэва яны збіраюць ладную музейную калекцыю археалагічных, этнаграфічных, нумізматычных матэрыялаў, якія датычаць беларуска-польскага памежжа.

Сярод іншага тут захоўваюцца беларускія матэрыялы са збораў знакамітых даследчыкаў краю М. Федароўскага, А. Кіркора, Я. і К. Тышкевічаў, А. Ельскага ды іншых.

На падставе багата сабраных матэрыялаў знакаміты навуковец і краязнаўца выдае "Старапольскую энцыклапедыю" у чатырох тамах і там каля 1000 ілюстрацый, шматлікія і разнастайныя матэрыялы, якія датычаць Беларусі па гісторыі, геаграфіі, драўлянай і мураванай архітэктуры. Тут можна знайсці матэрыялы па беларускім кнігадрукаванні, а таксама па матэрыяльнай і духоўнай культуры нашага народа.

Даследчай справай матэрыяльных і духоўных здабыткаў гэтага краю Зыгмунт Глогер займаецца ўсе сваё свядомае жыццё. Сярод іншага ў 1893 годзе ён у Варшаве выдаў "Торбу смеху" К. Жэры з беларускім гумарам, а скажам у артыкуле "Зубр" распавядаў пра гэтую цікавую жывёлу ад старажытнасці да свайго часу.

Тагачасныя даследаванні Зыгмунта Глогера сярод іншых прац навукоўцаў з'яўляюцца цудоўным матэрыялам для вывучэння нашай гісторыі.

*Я. П.*

## Родны край 2001




У выдавецтве "Беларусь" пабачыў свет чарговы выпуск беларускага адрыўнога календара "Родны край". Наклад 60 000 асобнікаў. Гэта ўжо 11-ты выпуск серыі. Першы каляндар выйшаў на 1991 год. Але як змянілася шаноўнае выданне. Ніякага ўспаміну пра нацыянальныя святы. 25 сакавіка мы, аказваецца, святкуем "Дзень беларускай навукі", "Дзень работнікаў гандлю, бытавога абслугоўвання насел-ніцтва і жыллёва-камунальнай гаспадаркі", 27 ліпеня мы нічога не святкуем. Праўда 15 сакавіка Дзень канстытуцыі яшчэ ёсць, хаця канстытуцыі той ужо і няма і г. д.

# Праблемы беларусізацыі абмяркоўваліся на сустрэчы кіраўнікоў грамадскіх аб'яднанняў з рэктарам БДУ

28 верасня пытанні, звязаныя з беларусізацыяй сістэмы вышэйшай адукацыі і, у прыватнасці Беларускага дзяржаўнага універсітэта абмяркоўваліся на сустрэчы старшыні "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" (ТБМ) Алега Трусава і прэзідэнта "Таварыства беларускай школы" (ТБШ) Алеся Лозкі з рэктарам БДУ Аляксандрам Казуліным.

Яны звярнулі ўвагу рэктара на кепскае валоданне беларускай мовай выпускнікамі факультэта журналістыкі БДУ. Гэтая праблема, дарэчы, падымалася і ў лісце старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Віктара Чыкіна, які ён накіраваў у ТБМ. "Мы перадалі рэктару БДУ копію ліста сп-ра Чыкіна і прапанавалі ўвесці для будучых журналістаў дзяржаўны экзамен па беларускай мове", - паведаміў спадар Трусаў. Акрамя таго рэктару было прапанавана аднавіць у ВНУ беларускамоўныя спецыялізацыі, што існавалі раней, а таксама адкрыць філіі гістарычнага факультэта БДУ у Пінску (Берасцейская вобласць) і Лідзе (Гарадзенская вобласць).

Аляксандр Казулін, паводле слоў Трусава, выступае супраць ідэі стварэння Беларускага нацыянальнага універсітэта (БНУ). Разам з тым рэктар запэўніў кіраўніцтва ТБМ і ТБШ, што, калі на яго імя пастуніць хаця б 25-30 заяў ад студэнтаў з просьбай адкрыць беларускае аддзяленне на любым з факультэтаў, ён адразу падпіша адпаведны загад. Казулін таксама прапанаваў адкрыць у складзе БДУ эксперымантальны інстытут з выкладаннем усіх прадметаў на беларускай мове: спачатку, паводле яго словаў, гэта можа быць некалькі аддзяленняў ці факультэтаў, напрыклад – мастацтвазнаўства ці прыродазнаўства. "На гэтай прапановай рэктара БДУ мы будзем працаваць на працягу кастрычніка-лістапада", - сказаў Трусаў. Паводле яго словаў, рэктар БДУ паабяцаў разглядзець пытанне пра паляпшэнне выкладання беларускай мовы на спецыяльным паседжанні навуковай рады.

Сустрэча пераканала Алега Трусава ў тым, што ідэю стварэння Нацыянальнага ўніверсітэта неабходна ўпарта прасоўваць. "Толькі тады можна дабіцца беларусізацыі ўсёй сістэмы вышэйшай адукацыі", - лічыць ён. Трусаў таксама паведаміў, што тэма стварэння БНУ ў бліжэйшы час будзе абмяркоўвацца на сустрэчы лідараў ТБМ і ТБШ з міністрам замежных спраў Уралам Латыпавым і кіраўніком кансультатыўна – назіральнай групы АБСЕ ў Менску Хансам-Георгам Вікам.

**Марат Гаравы,**
**БелаПАН.**

## ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ

Каб спыніць дыскрымінацыю карэннага этнасу, патрабуем забяспечыць грамадзянам Беларусі канстытуцыйнае права на атрыманне вышэйшай адукацыі па-беларуску.

Для гэтага патрабуем стварэння Беларускага нацыянальнага універсітэта.

| № | Прозвішча, імя , імя па бацьку | Адрас | Дата | Подпіс |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

*Ласкавая істота шасці год ад роду па імені Анютка ўтульна ўладкоўваецца на маіх каленях і просіць:*
*- Дзядуля, раскажы казку.*
*- Якую ж табе казку расказаць Анютка?*
*- Сваю.*
*- Сваю? Але ж я ніколі не складаў казак. У мяне няма сваёй казкі.*
*- А ты прыдумай.*
*- Думаеш , гэта так проста – прыдумаць казку? Але я паспрабую...*

# Воблачак-ветразень

## (казка для Анюткі)

Па чыстым блакітным небе плыў маленькі пушысты воблачак, падобны на карабельчык з надзьмутымі ветразямі. Воблачак спяшаўся да сваіх сяброў – людзей, якія жылі ў прыгожым месцы сярод лясоў на беразе ракі.

Некалькі стагоддзяў таму прыйшоў на гэтую зямлю дружны, вясёлы народ, ачысціў поле ад каменняў і буралому, узараў яго, пасеяў збажыну, пабудаваў дамы... І жывуць цяпер у гэтых дамах унукі тых першых людзей – добрыя, безжурботныя русавалосыя мужчыны і жанчыны. Будуюць яны новыя дамы, трывалыя і прыгожыя. Збіраюць ураджай з палёў, з кожным годам усё больш. Пяюць звонкія песні. І гадуюць дзяцей, гэткіх жа вясёлых і прыветлівых, як самі.

Маленькі пушысты воблачак, падобны на ветразень, любіў праплываць над іх сялібамі, слухаць іх вясёлыя песні і смех. Яго тут сустракалі як добрага знаёмага, як сябра, што прыносіць добрыя весткі. Дзяўчаты махалі яму хусцінкамі. Мужчыны спынялі працу, уздымалі галовы і ўсміхаліся воблачку, марачы аб чымсьці сваім.

А дзеці надзімалі вялікія мыльныя бурбалкі і пукалі іх уверх. Бурбалкі ляцелі высока-высока, воблачак кранаў іх сваім мяккім бокам, яны лопаліся і разляталіся яркімі каляровымі пырскамі. І здавалася, быццам карабельчык салютуе сваім сябрам святочным феерверкам.

Потым воблачак адплываў і людзі доўга з удзячнасцю глядзелі яму ўслед. Яны ведалі: хутка следам за воблачкам прыплывуць цёплыя дажджавыя хмаркі і напояць іх пасевы жыватворным дажджом. А таму зноў у іх будзе добры ўраджай.

Вось і на гэты раз воблачак нёс сваім сябрам добрую вестку. Ён плыў над гарамі і лясамі, над лугамі і азёрамі.

Хутка павінны паказацца знаёмыя мясціны. І раптам ветразень заўважыў наперадзе вялізарныя чорныя хмары. Хмараў было шмат і яны паступова западанілі ўсё неба.

То былі злыя кашлатыя пачвары. Ім даўно не падабаўся добры, вясёлы народ, што пасяліўся на гэтай зямлі. Ім увогуле не падабалася ўсё вясёлае, усё светлае, яркае. Яны былі задаволеныя толькі тады, калі ўсё навокал агортвалася цемрай, калі ўсё жывое заціхала ў жаху і з канца ў канец неба разносілася толькі іх пагрозлівае буркатанне.

І вось гэтыя пачвары сабраліся разам, каб знішчыць вясёлы народ. Адна з іх была падобнай на вялізны брудны мех з бульбай. Але не бульбай быў запоўнены гэты мех, а ледзяхамі граду. Другая ўсмактала ў сябе паўмора і ледзьве валачыла сваё пузатае цела. Трэцяя злавіла і несла ў сабе хуткі віхор-смерч, які шалёна ірваўся на волю, каб усё крышыць на сваім шляху. Астатнія перакідваліся вогненымі шарамі-маланкамі, сабранымі з усяго свету.

І гэты чорны натоўп з гулам і рыкам напаўзаў на пасёлак, каб абрушыцца на яго і сцерці з зямлі непакорлівы народ, разбурыць і спаліць дамы, знішчыць пасевы, заваліць усё бураломам, каб ніхто і ніколі больш не насмельваўся пасяліцца тут.

Шмат чаго бачылі людзі ў сваім жыцці: залевы і ўраганы, навальніцы і землятрусы, паводкі і засухі. Шмат перажылі, выстаялі, навучыліся адважна ўступаць у барацьбу і перамагаць. Але такога, як на гэты раз, яны яшчэ не бачылі. Цяпер іх чакала самае цяжкае выпрабаванне, выстаяць і перамагчы ў якім было амаль немагчыма. Яны гэта зразумелі і... жахнуліся. Яны стаялі, глядзелі на страшыдлаў, што павольна ды няўхільна набліжаліся, і не ведалі, што рабіць. Яны забыліся пра ўсё, што ўмелі. Яны навat не спрабавалі супраціўляцца. Ім здавалася, што ніякае супраціўленне тут не дапаможа. Роспач і безнадзейнасць звязалі ім рукі. І ў гэтым была іх пагібель. Таму што чалавек, апанаваны страхам і роспаччу, становіцца слабым і безабаронным.

Усё гэта і ўбачыў воблачак-ветразень, выплыўшы з-за апошняй гары.

Хмары-страшыдлы таксама ўбачылі воблачка. Убачылі і затрэсліся ад злосці. Яны зразумелі: калі людзі ўбачаць ветразня, у іх з'явіцца надзея. Надзея прагоніць страх. Надзея пазбавіць ад роспачы. Чалавека, у якога ёсць надзея, немагчыма ні знішчыць, ні запужаць. Такі чалавек непераможны! І хмары гэта добра ведалі.

Людзі не павінны ўбачыць воблачка! Так вырашылі пачвары і кінулі ў яго бок маланку. Але воблачак набліжаўся. З пагрозлівым буркатаннем хмары кінулі ў яго яшчэ некалькі маланак. Але і цяпер карабельчык не спыніўся. Раз'юшаныя пачвары павярнуліся і пагналіся за воблачкам, каб яго праглынуць. Быць праглынутым воблачку не хацелася і лёгкі ветразень павярнуў назад...

Доўга хмары гналіся за карабельчыкам. Вось ужо і пасёлка не відаць. Прамільгнулі лес і стэп... Маленькі жвавы карабельчык быў больш вёрткім, чым чорныя хмары. Але тых было шмат. Яны закрылі ад яго вецер, а без ветра воблачак не мог рухацца хутка. Больш за тое, сябравецер, імкнучыся дапамагчы воблачку, толькі падштурхоўваў да яго чорных страшыдлаў.

Над морам яны дагналі ветразня і праглынулі. Аднак вяртацца назад сіл ужо не засталося і яны праліліся над морам халодным злым дажджом...

А ў пасёлку дагэтуль жывуць добрыя вясёлыя людзі, будуюць дамы, сеюць збажыну, гадуюць дзяцей і пяюць звонкія песні. Ніхто з іх не ведае, што ўратаваў усіх маленькіх пушысты воблачак, падобны на карабельчык з надзьмутымі ветразямі.

*- Вось такая казка атрымалася.*
*- Нядобрая казка!*
*- Чаму ж, Анютка?*
*- Таму што воблачак загінуў!*
*- Але ж людзі засталіся жывы!*
*- І воблачак хай бы ўцёк!*
*- Але ж тады гэта было б ужо няпраўдай!*
*- Ну і што! У казках усё няпраўда!*
*- Не, Анютка, гэта не так. Гэта ў кепскіх казках усё няпраўда. У добрых жа казках усё праўда. Толькі гэтая праўда схаваная там, як арэх у шкарлупіне. І яе трэба ўмець дастаць. Вось праўда гэтай казкі: пакуль існуе на свеце зло, нехта павінен гінуць у барацьбе з ім, каб іншым жылося добра...*
*- І ўсё адно воблачка шкада!*
*- А ты прыдумай цяпер сваю казку. Яна будзе пачынацца так: "Наступіў новы дзень. Сонца ўздымалася ўсё вышэй і з бязвоблачнага неба ласкала зямлю цёплымі праменямі. Прачнуўся вецер, зашапацеў лістамі ў лесе і травой у стэпе. Запарыла, закурылася мора. Над ім узнялося марыва і адтуль выплыў лёгкі пушысты воблачак, падобны на карабельчык з надзьмутымі ветразямі..."*

**Апошні заклік тычыцца ўсіх, хто жадае дапамагчы Анютцы.**

### Магілёўская абласная арганізацыя Таварыства беларускай мовы абвяшчае конкурс "Казка для Анюткі".

*Умовы конкурсу такія:*

*- Казка павінна пачынацца з слоў, якія прапанаваныя Анютцы (выдзеленыя тлустым), а заканчвацца зніккненнем воблачка. Астатняе – воля аўтарскай фантазіі.*

*- Казка павінна быць напісаная на беларускай мове (якасць мовы будзе ўлічвацца пры падвядзенні вынікаў). Магчыма выкарыстанне як пасляpэформавай (пасля 1933 г.), так і дарэформавай беларускай мовы.*

*- Памер тэксту казкі не павінен перавышаць трох друкаванаых аркушаў.*

*- Да казкі прыкласці аркуш са звесткамі пра аўтара: прозвішча, імя, год нараджэння, хатні адрас, тэлефон, месца працы (вучобы).*

*У конкурсе можа браць удзел любы чалавек ва ўзросце ад трох да ста трох гадоў незалежна ад яго (ці яе) адукацыі, роду дзейнасці, месца жыхарства ці іншых абставін. Будзем радыя атрымаць пасланні ад вядомых пісьменнікаў. Пераможцы конкурсу атрымаюць грашовыя прызы. Лепшыя казкі будуць прапанаваныя для надрукаванньня ў газетах і часопісах.*

*Дасылайце, калі ласка, свае казкі да канца 2000 года на адрас: 212030 Магілёў, а. с. 3, М. Булавацкаму. Хто хоча даведацца, ці дайшла казка па прызначэнні, павінен прыкласці канверт з сваім адрасам. Вынікі конкурсу будуць падведзеныя ў сакавіку 2001 года. Абвестку знойдзеце ў газеце "Наша слова".*

*Няхай ваша фантазія дапаможа вам зарабіць грошы.*

*Зычым поспехаў!*

## Давайце смяяцца па-беларуску

### РАСКАТАЎ ГУБУ ІВАН...

Раскатаў губу Іван:
-- Буду жыць цяпер, як пан.
Піць і есці за дваіх,
Хопіць "зайчыкаў" маіх!
Рад Іван, і жонка рада,
Падарунак ад урада:
Удвая зарплату далі!
А назаўтра... адабралі.
Цэны выраслі ўтрая,
І прыбаўку ўдвая
Мігам згамалі ў Івана,
Не адбыўшагася пана
І маўчыць Іван цяпер,
З'елі цэны ўвесь давер
І да ўраду, і да тых,
Хто паддаў яму пад дых...

### ПЕЎНІК НА ПАСАДЗЕ

На птушніку з адной нагоды
Сабралі сходку, і калі
Дайшлі пасля кудахтання
Да згоды,
Што трэба выбары рабіць
І пачалі
Хахлаткі сталыя
І маладыя куры
Расхвальваць кожная
Свае кандыдатуры,
А трэ было абраць гаспадара,
Каб певень быў руплівы да двара,
Каб добра за парадкам даглядаў
І галасіста, лепш усіх спяваў,
Спыніліся на маладым,
Пры шпорах.
І крылы моцныя,
І дзюба хоць куды!
І да таго ж яшчэ – руды!
І пеўнік заспяваў.
Увесь ён у рабоце:
Крыламі б'е,
І на высокай ноце,
Ускочыўшы другіх вышэй,
Ён павучаць пачаў курэй
Як трэба яйкі несці,
Куды хадзіць, што есці.
Прыйшла пара,
На яйкі селі квочы.
Праходзяць дні,
Праходзяць ночы.
Пара з'явіцца і пісклятам
Убачыць свет, сустрэцца
з татам.
Але пустыя былі яйкі,
Бо пеўнік кукарэкаў байкі.
А тое, што патрэбна,
не рабіў.
Да спраў сапраўдных
ён не здольны быў.

xxx

А што, такога не бывае у людзей,
Калі пасаду нехта атрымае,
А што і як рабіць – не знае?

*Фелікс Шкірманкоў.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 30. 10. 2000 г.
Наклад 2900 асобнікаў. Замова № 2552
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 171 руб., 3 мес.- 513 руб.
***Кошт у розніцу:*** 45 руб.